3ок2
10521

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

10774

XVIII
10774

Б-а 2476 кр

# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН
КУЛЬТПРОПУ
ЦК КП/б/Б

ЛЮТЫ

№ 3

ДВБ 1933
ПАРТМАССЭКТАР

Дзяржаўная бібліятэка імя В. І. Леніна
1933

3 ок 2
10521

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся

# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

Державна публічна бібліотека
27 ОКТ 35

ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б

№ 3

ЛЮТЫ 1933

ВЫХОДЗІЦЬ 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

XVIII

10774

60167

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ПАРТМАССЭКТАР
МЕНСК 1933

Дзяржаўная бібліятэка

Літпраўка *Ф. Палей*
Корэктар *С. Дамаронак*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Здана ў друкарню 6-III—33 г.
Падпісана да друку 9/IV—33 г.
Набрана на лінатыпе № 6
Адк. кор. друкарні *У. Міхалевіч*

## ЗЬМЕСТ

*Стар.*



---

Заказ № 786. 5.000 экз. (1¾ арк.) Уп. Галоўлітбелу №а 199.

Друкарня імя Сталіна.

# Прамова Энгельса на магіле Маркса

14 сакавіка, бяз чвэрці а трэцяй папоўдні, перастаў мысьліць найвялікшы з сучасных мысьліцеляў. Яго пакінулі аднаго ўсяго толькі на дзьве мінуты; увайшоўшы ў пакой, мы знайшлі яго ў крэсьле спакойна заснуўшым,—але ўжо навекі.

Для пролетарыяту Эўропы і Амэрыкі, якія змагаецца, для гістарычнай навукі сьмерць гэтага чалавека—нязьмерная страта. Ужо ў бліжэйшы час зробіцца адчувальнай тая пустэча, якая ўтварылася пасьля сьмерці гэтага гіганта.

Падобна таму, як Дарвін адкрыў закон разьвіцьця органічнага сьвету, Маркс адкрыў закон разьвіцьця чалавечай гісторыі: той, да апошняга часу захаваны пад ідэолёгічнымі напластаваньнямі, просты факт, што людзі павінны есьці, піць, мець жыльлё і адзявацца—перш чым быць у стане займацца політыкай, навукай, мастацтвам, рэлігіяй і т. д.; што, значыць, вытворчасьць непасрэдных матэрыяльных сродкаў існаваньня і тым самым кожная даная ступень экономічнага разьвіцьця народу або эпохі ўтварае аснову, з якой разьвіваюцца дзяржаўныя ўстановы, прававыя погляды, мастацтва і нават рэлігійныя ўяўленьні даных людзей і з якой яны дзякуючы гэтаму павінны быць вытлумачаны,—а не наадварот, як гэта рабілася да гэтага часу.

Але гэтага мала. Маркс адкрыў таксама спэцыяльны закон руху сучаснага капіталістычнага способу вытворчасьці і народжанага ім буржуазнага грамадзтва. З адкрыцьцём дадатковай вартасьці ў гэтую галіну была адразу ўнесена ясласьць, у той час як усе ранейшыя дасьледваньні як буржуазных экономістаў, так і соцыялістычных крытыкаў былі блуканьнем у пацёмках.

Двух такіх адкрыцьцяў было-б дастаткова для аднаго жыцьця. Шчасьлівым быў-бы той, каму ўдалося-б адно такое адкрыцьцё. Але Маркс зрабіў самастойныя адкрыцьці ў кожнай галіне, якую ён дасьледваў,—нават у галіне матэматыкі,—а такіх галін было нямала, і ні аднэй з іх ён не займаўся павярхоўна.

Вось якім быў Маркс як чалавек навукі. Але ня гэта ў ім было галоўным. Навука была для Маркса гістарычна рухаючай рэволюцыйнай сілай. Якую-б жывую радасьць ні прыносіла яму кожнае новае адкрыцьце ў любой тэарэтычнай навуцы, аб практычным прымяненьні якога пакуль што яшчэ ня было і гутаркі,—яго радасьць была зусім іншай, калі справа ішла аб адкрыцьці,

якое неадкладна аказвае рэволюцыйнае ўзьдзеяньне на прамысловасьць, на гістарычнае разьвіцьцё наогул. Так, ён сачыў ва ўсіх падрабязнасьцях за разьвіцьцём адкрыцьцяў у галіне электрычнасьці, і ў апошні час у прыватнасьці за адкрыцьцямі Марсэля Дэпрэ [1]).

Бо Маркс быў перш за ўсё — рэволюцыянэр. Прымаць тым або іншым спосабам удзел у разбурэньні капіталістычнага грамадзтва і створаных ім дзяржаўных установ, удзельнічаць у справе вызваленьня сучаснага пролетарыяту, якому ён упяршыню даў сазнаньне яго ўласнага становішча і яго патрэбнасьцяй, сазнаньне ўмоў яго вызваленьня,—вось што было ў сапраўднасьці яго жыцьцёвым прызначэньнем. Яго стыхіяй была барацьба. І ён змагаўся з такім запалам, з такім упорствам, з такім посьпехам, як змагаюцца нямногія. Першая «Рэйнская газэта» 1842 г., парыскі «Ўперад» 1844 г., «Брусэльская Нямецкая газэта» 1847 г., «Новая Рэйнская газэта» 1848-1849 гг., «Нью-Ёрская Трыбуна 1852-1861 гг. і звыш таго мноства баявых брошур, работа ў організацыях у Парыжы, Брусэлі і Лёндоне, пакуль нарэшце ня ўзьнікла, як венец усяго гэтага, вялікае «Міжнароднае таварыства рабочых» [2])—гэта было справай, якою сапраўды мог-бы гардзіцца той, хто яе стварыў, калі-б ён апроч гэтага і не стварыў нічога больш.

Вось чаму Маркс быў чалавекам, якога больш за ўсё ненавідзілі і на якога больш за ўсё паклёпнічалі. Урады—самадзяржаўныя і рэспубліканскія—высылалі яго; буржуа—консэрватыўныя і ультрадэмократычныя—наперабой асыпалі яго паклёпамі і праклёнамі. Ён адмятаў усё гэта, як павучыньне, не ўдзяляючы гэтаму ўвагі, адказваючы толькі пры крайняй неабходнасьці. І ён памёр, шануемы, любімы, аплакваемы мільёнамі рэволюцыйных саратнікаў ва ўсёй Эўропе і Амэрыцы, ад сібірскіх руднікоў да Каліфорніі, і я сьмела магу сказаць: у яго магло быць шмат праціўнікаў, але наўрад ці быў хоць адзін асабісты вораг.

І імя яго, і справа перажывуць стагодзьдзі!

*Друкуецца па цюрыхскай газэце „Zozialdemokrat“ № 13 ад 22 сакавіка 1883 г.*

---

[1]) *Дэпрэ* Марсэль (1843—1891)—францускі вучоны, фізык, аўтар першых вопыту перадачы энэргіі на адлегласьць.

[2]) Першы Інтэрнацыянал.

*У. Ленін.*

# Тры крыніцы і тры сустаўных часткі марксызму

Вучэньне Маркса выклікае да сябе ва ўсім цывілізаваным сьвеце найвялікшую варожасьць і нянавісьць усёй буржуазнай (і казённай, і лібэральнай) навукі, якая бачыць у марксызьме нешта накшталт «шкоднай сэкты». Іншых адносін нельга і чакаць, бо «бесстаронняй» соцыяльнай навукі ня можа быць у грамадзтве, пабудаваным на клясавай барацьбе. Так або інакш, але **ўся** казённая і лібэральная навука **абараняе** наёмнае рабства, а марксызм абвяціў бязьлітасную вайну гэтаму рабству. Чакаць бесстароннай навукі ў грамадзтве наёмнага рабства—такая-ж глупенькая наіўнасьць, як чакаць бесстароннасьці фабрыкантаў у пытаньні аб тым, ці ня трэба павялічыць плату рабочым, зьменшыўшы прыбытак капіталу.

Але гэтага мала. Гісторыя філёзофіі і гісторыя соцыяльнай навукі паказваюць з поўнай яснасьцю, што ў марксызьме няма нічога падобнага да «сэктанцтва» ў сэнсе нейкага замкнёнага, закасьцянелага вучэньня, узьнікшага **ў баку** ад сталбавой дарогі разьвіцьця сусьветнай цывілізацыі. Наадварот, уся геніяльнасьць Маркса заключаецца іменна ў тым, што ён даў адказы на пытаньні, якія перадавая мысьль чалавецтва ўжо паставіла. Яго вучэньне ўзьнікла як прамы і непасрэдны **працяг** вучэньня найвялікшых прадстаўнікоў філёзофіі, палітычнай эканоміі і соцыялізму.

Вучэньне Маркса ўсемагутна, таму што яно верна. Яно поўна і стройна, даючы людзям цэльны сьветапогляд, непрымірымы ні з якімі забабонамі, ні з якой рэакцыяй, ні з якой абаронай буржуазнага ўціску. Яно ёсьць законны пераемнік лепшага, што стварыла чалавецтва ў XIX веку ў асобе нямецкай філёзофіі, англійскай палітычнай эканоміі, францускага соцыялізму.

На гэтых трох крыніцах і разам з тым сустаўных частках марксызму мы коратка і спынімся.

## I.

Філёзофія марксызму ёсьць **матэрыялізм.** На працягу ўсёй навейшай гісторыі Эўропы, і асабліва ў канцы XVIII веку, у Францыі, дзе разыгралася рашучая бітва супроць усякага сярэднявяковага хламу, супроць прыгоньніцтва ва ўстановах і ў ідэях,

матэрыялізм аказаўся адзіна пасьлядоўнай філёзофіяй, вернай усім вучэньням прыродазнаўчых навук, варожай забабонам, ханжаству і да т. п. Ворагі дэмократыі стараліся таму ўсімі сіламі «абвергнуць», падарваць, зьняславіць матэрыялізм і абаранялі розныя формы філёзофскага ідэалізму, якія заўсёды зводзіцца, так або інакш, да абароны або падтрыманьня рэлігіі.

Маркс і Энгельс самым рашучым чынам адстойвалі філёзофскі матэрыялізм і неаднакроць разьясьнялі глыбокую памылковасьць усякіх ухіленьняў ад гэтай асновы.

Найбольш ясна і падрабязна выкладзены іх погляды ў творах Энгельса: «Людвіг Фэйербах» і «Абвяржэньне Дзюрынга», якія—падобна «Камуністычнаму маніфэсту»,—зьяўляюцца настольнай кнігай усякага сьвядомага рабочага.

Але Маркс ня спыніўся на матэрыялізьме XVIII веку, а рушыў філёзофію ўперад. Ён узбагаціў яе набыткамі нямецкай клясычнай філёзофіі, асабліва сыстэмы Гегеля, якая ў сваю чаргу прыняла да матэрыялізму Фэйербаха. Галоўнае з гэтых набыткаў—**дыялектыка,** т. зн. вучэньне аб разьвіцьці ў яго найбольш поўным, глыбокім і свабодным ад аднабаковасьці выглядзе, вучэньне аб адноснасьці чалавечых ведаў, якія даюць нам адлюстраваньне матэрыі ў вечным разьвіцьці. Навейшыя адкрыцьці прыродазнаўства—радый, электроны, ператварэньне элемэнтаў—надзвычай добра падцьвердзілі дыялектычны матэрыялізм Маркса, насуперак вучэньням буржуазных філёзофаў з іх «новымі» зваротамі да старога і гнілога ідэалізму.

Паглыбляючы і разьвіваючы філёзофскі матэрыялізм, Маркс давёў яго да канца, пашырыў яго пазнаньне прыроды на пазнаньне **чалавечага грамадзтва.** Найвялікшым заваяваньнем навуковай мысьлі зьявіўся **гістарычны матэрыялізм** Маркса. Хаос і свавольства, панаваўшыя да гэтага часу ў поглядах на гісторыю і на палітыку, зьмяніліся надзвычайна цэльнай і стройнай навуковай тэорыяй, паказваючай, як з аднаго ўкладу грамадзкага жыцьця разьвіваецца, у выніку росту продукцыйных сіл, другі, больш высокі,—з прыгоньніцтва, напр., вырастае капіталізм.

Зусім таксама, як пазнаньне чалавека адлюстроўвае незалежна ад яго існуючую прыроду, т. зн. матэрыю ў яе разьвіцьці, так **грамадзкае пазнаньне чалавека** (т. зн. розныя погляды і вучэньні філёзофскія, рэлігійныя, палітычныя і да т. п.) адлюстроўвае **экономічны лад** грамадзтва. Палітычныя ўстановы зьяўляюцца надбудовай над экономічнай асновай. Мы бачым, напр., як розныя палітычныя формы сучасных эўропейскіх дзяржаў служаць умацаваньню панаваньня буржуазіі над пролетарыятам.

Філёзофія Маркса ёсьць закончаны філёзофскі матэрыялізм, які даў чалавецтву вялікія прылады пазнаньня, а рабочай клясе—ў асаблівасьці.

## II.

Прызнаўшы, што экономічны лад зьяўляецца асновай, на якой узвышаецца політычная надбудова, Маркс больш за ўсё ўвагі аддаў вывучэньню гэтага экономічнага ладу. Галоўная праца Маркса—«Капітал» прысьвечан вывучэньню экономічнага ладу сучаснага, г. зн. капіталістычнага грамадзтва.

Клясычная політычная экономія да Маркса склалася ў Англіі—самай разьвітай капіталістычнай краіне. Адам Сьміт і Давід Рыкардо, дасьледуючы экономічны лад, паклалі пачатак **працоўнай тэорыі вартасьці**. Маркс вёў далей іх справу. Ён строга абгрунтаваў і пасьлядоўна разьвіў гэтую тэорыю. Ён паказаў, што вартасьць усякага тавару азначаецца колькасьцю грамадзка-неабходнага рабочага часу, які ідзе на выраб тавару.

Там, дзе буржуазныя экономісты бачылі адносіны рэчаў (абмен тавару на тавар), там Маркс ускрыў **адносіны паміж людзьмі**. Абмен тавараў выражае сувязь паміж паасобнымі вытворцамі пры дапамозе рынку. **Грошы** азначаюць, што гэтая сувязь робіцца ўсё цясьней, непарыўна злучаючы ўсё гаспадарчае жыцьцё паасобных вытворцаў у адно цэлае. **Капітал** азначае далейшае разьвіцьцё гэтай сувязі: таварам становіцца рабочая сіла чалавека. Наёмны рабочы прадае сваю рабочую сілу ўладальніку зямлі, фабрык, прылад працы. Адну частку рабочага дня рабочы аддае на тое, каб пакрыць расходы на ўтрыманьне сваё і сваёй сям'і (заработная плата), а другую частку дня рабочы працуе дарма, ствараючы **дадатковую вартасьць** для капіталіста, крыніцу прыбытку, крыніцу багацьця клясы капіталістаў.

Вучэньне аб дадатковай вартасьці ёсьць аснова экономічнай тэорыі Маркса.

Капітал, створаны працай рабочага, давіць рабочага, разараючы дробных гаспадароў і ствараючы армію беспрацоўных. У прамысловасьці перамога буйнай вытворчасьці відаць адразу, але і ў земляробстве мы бачым тую-ж зьяву: перавага буйнага капіталістычнага земляробства павялічваецца, расьце ўжываньне машын, сялянская гаспадарка трапляе ў пятлю грашовага капіталу, падае і разараецца пад гнётам адсталай тэхнікі. У земляробстве—іншыя формы падзеньня дробнай вытворчасьці, але само падзеньне яго ёсьць бясспрэчны факт.

Пабіваючы дробную вытворчасьць, капітал вядзе да павялічэньня продукцыйнасьці працы і да стварэньня монопольнага становішча саюзаў буйнейшых капіталістаў. Сама вытворчасьць становіцца ўсё больш грамадзкай,—сотні тысяч і мільёны рабочых зьвязваюцца ў плянамерны гаспадарчы організм,—а продукт агульнай працы прысвойваецца жменькай капіталістаў. Расьце анархія вытворчасьці, крызісы, шалёная пагоня за рынкам, незабясьпечанасьць існаваньня для масы насельніцтва.

Павялічваючы залежнасьць рабочых ад капіталу, капіталістычны лад стварае вялікую магутнасьць аб'яднанай працы.

Ад першых зачаткаў таварнай гаспадаркі, ад простага абмену, Маркс прасачыў разьвіцьцё капіталізму да яго вышэйшых форм, да буйнай вытворчасьці.

І вопыт усіх капіталістычных краін, як старых, так і новых, паказвае наглядна з кожным годам усё большай і большай колькасьці рабочых правільнасьць гэтага вучэньня Маркса.

Капіталізм перамог ва ўсім сьвеце, але гэтая перамога ёсьць толькі праддзьвер'е перамогі працы над капіталам.

## III.

Калі было зьвергнута прыгоньніцтва і на сьвет божы зьявілася «свабоднае» капіталістычнае грамадзтва,—адразу выявілася, што гэтая свабода азначае новую сыстэму прыгнечаньня і эксплёатацыі працоўных. Розныя соцыялістычныя вучэньні зараз-жа пачалі ўзьнікаць, як адлюстраваньне гэтага ўціску і протэст супроць яго. Але першапачатковы соцыялізм быў **утопічным** соцыялізмам. Ён крытыкаваў капіталістычнае грамадзтва, асуджаў, праклінаў яго, марыў аб зьніштажэньні яго, фантазаваў аб лепшым ладзе, пераконваў багатых у антымаральнасьці эксплёатацыі.

Але ўтопічны соцыялізм ня мог указаць сапраўднага выхаду. Ён ня ўмеў ні разьясьніць сутнасьці наёмнага рабства пры капіталізьме, ні адкрыць законы яго разьвіцьця, ні знайсьці тую **грамадзкую сілу,** якая здольна стаць тварцом новага грамадзтва.

Між тым бурныя рэволюцыі, якімі суправаджалася падзеньне фэодалізму, прыгоньніцтва, усюды ў Эўропе і асабліва ў Францыі, усё наглядней ускрывалі як аснову ўсяго разьвіцьця і яго рухаючую сілу **барацьбу кляс.**

Ніводная перамога палітычнай свабоды над клясай прыгоньнікаў ня была заваявана без зацятага супраціўленьня. Ніводная капіталістычная краіна ня склалася на больш або менш свабоднай, дэмократычнай аснове, без барацьбы не на жыцьцё, а на сьмерць, паміж рознымі клясамі капіталістычнага грамадзтва.

Геніяльнасьць Маркса заключаецца ў тым, што ён здолеў раней за ўсіх зрабіць адсюль і правесьці пасьлядоўна той вывад, якому вучыць усясьветная гісторыя. Гэты вывад ёсьць вучэньне аб **клясавай барацьбе.**

Людзі заўсёды былі і заўсёды будуць глупенькімі афярамі абману і самаабману ў палітыцы, пакуль яны не навучацца за любымі моральнымі, рэлігійнымі, палітычнымі, соцыяльнымі фразамі, заявамі, абяцаньнямі адшукваць **інтарэсы** тых або іншых кляс. Староньнікі рэформы і паляпшэньняў заўсёды будуць адурачвацца абаронцамі старога, пакуль не зразумеюць, што ўсякая старая ўстанова, якой-бы дзікай і гнілой яна ні здавалася, трымаецца сіламі тых або іншых пануючых кляс. А каб зламаць

супрацiўленьне гэтых кляс, ёсьць **толькi адзiн сродак:** знайсьцi ў самiм акружаючым нас грамадзтве, асьвецiць i арганiзаваць для барацьбы такiя сiлы, якiя могуць— i па сваiм грамадзкiм становiшчы **павiнны**—скласьцi сiлу, здольную зьмесьцi старое i стварыць новае.

Толькi фiлёзофскi матэрыялiзм Маркса ўказаў пролетарыяту выхад з духоўнага рабства, у якiм гiбелi да гэтага часу ўсе прыгнечаныя клясы. Толькi экономiчная тэорыя Маркса разьясьнiла сапраўднае становiшча пролетарыяту ў агульным ладзе капiталiзму.

Ва ўсiм сьвеце, ад Амэрыкi да Японii i ад Швэцыi да Паўднёвай Афрыкi, множацца самастойныя органiзацыi пролетарыяту. Ён асьвечваецца i выхоўваецца, вядучы сваю клясавую барацьбу, вызваляецца ад прадрассудкаў буржуазнага грамадзтва, згуртоўваецца ўсё цясьней i вучыцца вымяраць меру сваiх посьпехаў, загартоўваць свае сiлы i расьце нястрымана.

*„Просвещение“ № 3 сакавiк 1913 г.*
*Подпiс: В. I.*

*(т. XVI, стр. 349—353).*

---

# Урывак з гутаркі т. Сталіна з першай амэрыканскай рабочай дэлегацыяй

*9 верасьня 1927 г.*

## I. ПЫТАНЬНІ ДЭЛЕГАЦЫІ І АДКАЗЫ Т. СТАЛІНА

**1-е пытаньне. Якія новыя прынцыпы былі практычна даданы Леніным і компартыяй да марксызму? Ці было-б правільным сказаць, што Ленін верыў у „творчую рэволюцыю“, тады як Маркс быў больш схільны чакаць кульмінацыйнага разьвіцьця экономічных сіл?**

Адказ. Я думаю, што ніякіх «новых прынцыпаў» Ленін не «дадаваў» да марксызму, таксама як Ленін не адмяняў ніводнага з «старых» прынцыпаў марксызму. Ленін быў і астаецца самым верным і пасьлядоўным вучнем Маркса і Энгельса, які цалкам і поўнасьцю апіраецца на прынцыпы марксызму. Але Ленін ня быў толькі выканаўцам вучэньня Маркса—Энгельса. Ён быў разам з тым прадаўжальнікам вучэньня Маркса і Энгельса. Што гэта значыць? Гэта значыць, што ён разьвіў далей вучэньне Маркса і Энгельса прыстасавальна да новых умоў разьвіцьця, прыстасавальна да новай фазы капіталізму, прыстасавальна да імпэрыялізму. Гэта значыць, што, разьвіваючы далей вучэньне Маркса ў новых умовах клясавай барацьбы, Ленін унёс у агульную скарбніцу марксызму нешта новае ў параўнаньні з тым, што дана Марксам і Энгельсам, у параўнаньні з тым, што магло быць дано ў пэрыод даімпэрыялістычнага капіталізму, прычым гэтае новае ўнесенае Леніным у скарбніцу марксызму, базуецца цалкам і поўнасьцю на прынцыпах, даных Марксам і Энгельсам. У гэтым сэнсе і гаворыцца ў нас аб ленінізьме, як марксызьме эпохі імпэрыялізму і пролетарскіх рэволюцый. Вось некалькі пытаньняў, у абсягу якіх Ленін даў нешта новае, разьвіваючы далей вучэньне Маркса.

Па-першае, пытаньне аб монополістычным капіталізьме, аб імпэрыялізьме, як новай фазе капіталізму. Маркс і Энгельс далі ў «Капітале» аналіз асноў капіталізму. Але Маркс і Энгельс жылі ў пэрыод панаваньня дамонополістычнага капіталізму, у пэрыод плаўнага эволюцыянаваньня капіталізму і яго «мірнага» пашырэньня на ўвесь земны шар. Гэтая старая фаза скончылася

к канцу XIX і к пачатку XX ст., калі Маркса і Энгельса ня было ўжо ў жывых. Зразумела, што Маркс і Энгельс маглі толькі здагадвацца аб тых новых умовах разьвіцьця капіталізму, якія наступілі ў сувязі з новай фазай капіталізму, прыйшоўшай на зьмену старой фазе, у сувязі з імпэрыялістычнай, монополістычнай фазай разьвіцьця, калі плаўнае эволюцыянаваньне капіталізму зьмянілася скачкападобным, катастрофічным разьвіцьцём капіталізму, калі няроўнамернасьць разьвіцьця і супярэчнасьці капіталізму выступілі з асобай сілай, калі барацьба за рынкі збыту і вывазу капіталу ва ўмовах надзвычайнай няроўнамернасьці разьвіцьця зрабіла няўхільнымі пэрыодычныя імпэрыялістычныя войны дзеля пэрыодычных перадзелаў сьвету і сфэр уплыву. Заслуга Леніна і, значыцца, новае ў Леніна заключаецца тут у тым, што ён, апіраючыся на асноўныя палажэньні «Капіталу», даў абгрунтаваны марксысцкі аналіз імпэрыялізму, як апошняй фазы капіталізму, ускрыўшы яго язвы і ўмовы яго няўхільнай гібелі. На базе гэтага аналізу ўзьнікла вядомае палажэньне Леніна аб тым, што ва ўмовах імпэрыялізму магчыма перамога соцыялізму ў паасобных, паасобку ўзятых, капіталістычных краінах.

П а - д р у г о е, пытаньне аб дыктатуры пролетарыяту. Асноўную ідэю дыктатуры пролетарыяту, як палітычнага панаваньня пролетарыяту і як мэтоду зьвяржэньня ўлады капіталу шляхам гвалту, далі Маркс і Энгельс. Новае ў Леніна заключаецца ў гэтым абсягу ў тым, што: а) ён адкрыў савецкую ўладу, як дзяржаўную форму дыктатуры пролетарыяту, скарыстаўшы для гэтага вопыт Парыскай комуны і расійскай рэволюцыі; б) ён раскрыў дужкі ў формуле дыктатуры пролетарыяту пад кутом гледжаньня проблемы аб саюзьніках пролетарыяту, вызначыўшы дыктатуру пролетарыяту, як асобую форму клясавага саюзу пролетарыяту, які зьяўляецца кіраўніком, з эксплёатуемымі масамі непролетарскіх кляс (сялянства і інш.), якія зьяўляюцца кіруемымі; в) ён падкрэсьліў з асобай сілай той факт, што дыктатура пролетарыяту зьяўляецца вышэйшым тыпам дэмократыі пры клясавым грамадзтве, формай **пролетарскай** дэмократыі, выражаючай інтарэсы большасьці (эксплёатуемых),—у процівагу дэмократыі **капіталістычнай,** выражаючай інтарэсы меншасьці (эксплёататараў).

П а - т р э ц я е, пытаньне аб формах і спосабах пасьпяховага будаўніцтва соцыялізму ў пэрыод дыктатуры пролетарыяту, у пэрыод пераходны ад капіталізму да соцыялізму, у краіне, акружанай капіталістычнымі дзяржавамі. Маркс і Энгельс разглядалі пэрыод дыктатуры пролетарыяту, як пэрыод больш або менш працяглы, поўны рэволюцыйных схватак і грамадзянскіх войн, на працягу якога пролетарыят, знаходзячыся на чале ўлады, прымае меры экономічнага, палітычнага, культурнага і організацыйнага характару, неабходныя для таго, каб замест старога капіта-

лістычнага грамадзтва стварыць новае социялістычнае грамадзтва, грамадзтва бяз кляс, грамадзтва без дзяржавы. Ленін стаяў цалкам і поўнасьцю на грунце гэтых асноўных палажэньняў Маркса і Энгельса. Новае ў Леніна ў гэтым абсягу заключаецца ў тым, што: а) ён абгрунтаваў магчымасьць пабудаваньня поўнага социялістычнага грамадзтва ў краіне дыктатуры пролетарыяту, акружанай імпэрыялістычнымі дзяржавамі, пры ўмове, што гэтая краіна ня будзе задушана ваеннай інтэрвэнцыяй акружаючых капіталістычных дзяржаў; б) ён намеціў конкрэтныя шляхі экономічнай політыкі («новая экономічная політыка»), пры дапамозе якіх пролетарыят, маючы ў руках экономічныя камандныя вышыні (прамысловасьць, зямлю, транспорт, банкі і да т. п.), змыкае социялізаваную індустрыю з сельскай гаспадаркай («змычка індустрыі з сялянскай гаспадаркай») і вядзе, такім чынам, усю народную гаспадарку да социялізму; в) ён намеціў конкрэтныя шляхі паступовага падводу і ўцягненьня асноўных мас сялянства ў рэчышча социялістычнага будаўніцтва праз коопэрацыю, якая прадстаўляе ў руках пролетарскай дыктатуры найвялікшы сродак пераробкі дробнай сялянскай гаспадаркі і перавыхаваньня асноўных мас сялянства ў духу социялізму.

Па-чацьвёртае, пытаньне аб гегемоніі пролетарыяту ў рэволюцыі, ва ўсякай народнай рэволюцыі, як у рэволюцыі супроць царызму, так і ў рэволюцыі супроць капіталізму. Маркс і Энгельс далі асноўныя накіды ідэі гегемоніі пролетарыяту. Новае ў Леніна заключаецца тут у тым, што ён разьвіў далей і разгарнуў гэтыя накіды ў стройную сыстэму гегемоніі пролетарыяту, у стройную сыстэму кіраўніцтва пролетарыяту працоўнымі масамі гораду і вёскі ня толькі ў справе зьвяржэньня царызму і капіталізму, але і ў справе социялістычнага будаўніцтва пры дыктатуры пролетарыяту. Вядома, што ідэя гегемоніі пролетарыяту атрымала, дзякуючы Леніну і яго партыі, майстэрскае прымяненьне ў Расіі. Гэтым, між іншым, тлумачыцца той факт, што рэволюцыя ў Расіі прывяла да ўлады пролетарыяту. Раней звычайна справа адбывалася такім чынам, што рабочыя біліся ў часе рэволюцыі на барыкадах, яны пралівалі кроў, яны зьвяргалі старое, а ўлада трапляла ў рукі буржуа, якія прыгняталі і эксплёатавалі потым рабочых. Так была справа ў Англіі і ў Францыі. Так была справа ў Германіі. У нас, у Расіі, справа прыняла іншы абарот. У нас рабочыя прадстаўлялі ня толькі ўдарную сілу рэволюцыі. Будучы ўдарнай сілай рэволюцыі, расійскі пролетарыят імкнуўся разам з тым быць гегемонам, політычным кіраўніком усіх эксплёатуемых мас гораду і вёскі, згуртоўваючы іх вакол сябе, адрываючы іх ад буржуазіі, ізолюючы політычна буржуазію. Зьяўляючыся-ж гегемонам эксплёатуемых мас, расійскі пролетарыят увесь час змагаўся за тое, каб захапіць уладу ў свае рукі і скарыстаць яе ў сваіх уласных інтарэсах супроць буржуазіі, супроць капіталізму. Гэтым уласна і тлумачыцца, што

кожнае магутнае выступленьне рэволюцыі ў Расіі, як у кастрычніку 1905 г., так і ў лютым 1917 г., высоўвала на сцэну саветы рабочых дэпутатаў, як зародкі новага апарату ўлады, заклíканага падаўляць буржуазію,—у процівагу буржуазнаму парляманту, як старому апарату ўлады, заклíканаму падаўляць пролетарыят. Двойчы прабавала ў нас буржуазія аднавіць буржуазны парлямант і пакласьці канец саветам: у жніўні 1917 г., у часе «Перадпарляманту», да ўзяцьця ўлады бальшавікамі, і ў студзені 1918 г., у часе «Ўстаноўчага сходу», пасьля ўзяцьця ўлады пролетарыятам,—і кожны раз цярпела паражэньне. Чаму? Таму, што буржуазія была ўжо ізолявана політычна, мільённыя масы працоўных лічылі пролетарыят адзіным правадыром рэволюцыі, а саветы былі ўжо праверáны і выпрабаваны масамі, як свая рабочая ўлада, прамяняць якую на буржуазны парлямант было-б для пролетарыяту самагубствам. Нядзіўна таму, што буржуазны парлямантарызм не прышчапіўся ў нас. Вось чаму рэволюцыя прывяла ў Расіі да ўлады пролетарыяту. Такія рэзультаты правядзеньня ў жыцьцё ленінскай сыстэмы гегемоніі пролетарыяту ў рэволюцыі.

П а - п я т а е, пытаньне нацыянальна-колёніяльнае. Маркс і Энгельс, аналізуючы ў свой час падзеі ў Ірляндыі, у Індыі, у Кітаі, у краінах цэнтральнай Эўропы, у Польшчы, у Вэнгрыі,—далі асноўныя, адпраўныя ідэі па нацыянальна-колёніяльным пытаньні. Ленін у сваіх працах базаваўся на гэтых ідэях. Новае ў Леніна ў гэтым абсягу, заключаецца ў тым, што: а) ён сабраў у адно ўсе гэтыя ідэі ў стройную сыстэму поглядаў аб нацыянальна-колёніяльных рэволюцыях у эпоху імпэрыялізму; б) зьвязаў нацыянальна-колёніяльнае пытаньне з пытаньнем аб зьвяржэньні імпэрыялізму; в) абвясьціў нацыянальна-колёніяльнае пытаньне сустаўной часткай агульнага пытаньня аб міжнароднай пролетарскай рэволюцыі.

Нарэшце, пытаньне аб партыі пролетарыяту. Маркс і Энгельс далі асноўныя накіды аб партыі, як перадавым атрадзе пролетарыяту, без якой (бяз партыі) пролетарыят ня можа дабіцца свайго вызваленьня ні ў сэнсе ўзяцьця ўлады, ні ў сэнсе перабудовы капіталістычнага грамадзтва. Новае ў Леніна ў гэтым абсягу заключаецца ў тым, што ён разьвіў далей гэтыя накіды прыстасавальна да новых умоў барацьбы пролетарыяту ў пэрыод імпэрыялізму, паказаўшы, што: а) партыя ёсьць вышэйшая форма клясавай організацыі пролетарыяту ў параўнаньні з іншымі формамі організацыі пролетарыяту (профсаюзы, коопэрацыя, дзяржаўная організацыя), работу якіх заклíкана яна абагульняць і накіроўваць; б) дыктатура пролетарыяту можа быць ажыцьцёўлена толькі праз партыю, як яе накіроўваючую сілу; в) дыктатура пролетарыяту можа быць поўнай толькі ў тым выпадку, калі ёю кіруе адна партыя, партыя комуністаў, якая не падзяляе і не павінна падзяляць кіраўніцтва з іншымі партыямі; г) без жалез-

най дысцыпліны ў партыі ня могуць быць ажыцьцёўлены задачы дыктатуры пролетарыяту па падаўленьні эксплёататараў і перабудове клясавага грамадзтва ў грамадзтва соцыялістычнае.

Вось у асноўным тое новае, што даў Ленін у сваіх працах, конкрэтызуючы і разьвіваючы далей вучэньне Маркса прыстасавальна да новых умоў барацьбы пролетарыяту ў пэрыод імпэрыялізму.

Таму і кажуць у нас, што ленінізм ёсьць марксызм эпохі імпэрыялізму і пролетарскіх рэволюцый.

З гэтага відаць, што ленінізм нельга ні аддзяляць ад марксызму, ні тым больш процістаўляць марксызму.

У пытаньні дэлегацыі сказана далей: «Ці было-б правільным сказаць, што Ленін верыў у «творчую рэволюцыю», тады як Маркс быў больш схільны чакаць кульмінацыйнага разьвіцьця экономічных сіл»? Я думаю, што сказаць так было-б зусім няправільна. Я думаю, што ўсякая народная рэволюцыя, калі яна зьяўляецца сапраўды народнай рэволюцыяй, ёсьць рэволюцыя творчая, бо яна ламае стары ўклад і творыць, стварае новы. Зразумела, ня можа быць нічога творчага ў такіх, з дазволу сказаць, «рэволюцыях», якія бываюць часам, скажам, у Албаніі ў выглядзе мізэрных «паўстаньняў» адных пляменьняў супроць другіх. Але такія мізэрныя «паўстаньні» ніколі ня лічыліся марксыстамі рэволюцыяй. Гутарка ідзе, відавочна, не аб такіх «паўстаньнях», а аб масавай народнай рэволюцыі, падымаючай прыгнечаныя клясы супроць кляс прыгнятальнікаў. А такая рэволюцыя ня можа ня быць творчай. Маркс і Ленін стаялі іменна за такую рэволюцыю,—і толькі за такую. Пры гэтым зразумела, што такая рэволюцыя ня можа ўзьнікнуць пры любых умовах, што яна можа разыграцца толькі пры пэўных спрыяючых умовах экономічнага і політычнага парадку.

(Сталин, „Вопросы ленинизма", стр. 263—267, изд. 1932 г.).

---

# Клімавычы рапартуюць

*Цараў*

## У БОЙ ЗА ЯКАСЬЦЬ БАЛЬШАВІЦКАЙ ПРОПАГАНДЫ

*(З вопыту Клімавіцкай пропгрупы ЦК КП(б)Б)*

Як партыйная організацыя Клімаўшчыны змагаецца за выкананьне задач партыі па марксысцка-ленінскім выхаваньні сваіх радоў, радоў шырокага профсаюзнага, комсамольскага, колгаснага актыву?

Раённы комітэт партыі паставіў пытаньне марксысцка-ленінскага выхаваньня на ўзровень важнейшага зьвяна сваёй работы.

Каб поўнасьцю забясьпечыць выкананьне пастаўленых перад парторганізацыяй задач, раённы комітэт запатрабаваў ад усяе райпарторганізацыі абавязковай тэорэтычнай вучобы два дні ў тыдзень па панядзелках і чацьвергам.

У гэтыя дні партячэйкам, установам і організацыям забаронена праводзіць якія-б там ні было сходы, нарады, паседжаньні і т. д.

Устаноўлена наступная сетка масавай партасьветы:

а) 3-месяч. кандыдацкіх школ—48; б) 6-мес. партшкол—36; в) гадавых ВСПШ—4; усяго ахоплена сеткай—2 149 асоб.

З гэтага ліку членаў партыі—334, кандыдатаў—302, комсамольскага актыву—371 і беспартыйнага актыву—1 142.

Упяршыню організован і на паўмесяца раней тэрміну распачаў сваю работу Вячэрні комуністычны унівэрсытэт, ахапіўшы 37 чалавек комуністаў, кіраўнікоў розных раённых устаноў і організацый. Астатняя частка раённага і сельскага партактыву ў колькасьці 62 чал. актыўна працуе ў сыстэме завочнага навучаньня (завочны комвуз, яўрэйс. СПШ і Магілеўская саўпартшкола).

У адносінах колькаснага ахопу райпарторганізацыі (навучаецца каля 98 проц. організацыі) і беспартыйнага актыву партасьветай,—Клімавіцкі раён мае вялізарныя дасягненьні. Контрольныя лічбы Культпропу ЦК КП(б)Б выкананы на 185 проц. У большасьці сельсаветаў амаль цалкам ахоплены партасьветай: члены с.-с., настаўнікі, члены праўленьняў колгасаў, загадчыкі фэрм і брыгадзіры (Гусарская, Макеевіцкая і інш. партячэйкі).

Якім чынам дасягнуты гэтыя посьпехі ў галіне колькаснага ахопу партыйных і беспартыйных мас?

За летні час з лепшага складу вясковых партыйных ячэек падрыхтавалі 20 чал. пропагандыстаў праз месячныя курсы пры РК. Яшчэ ў верасьні пропгрупа і культпроп РК з усім складам сваіх работнікаў на аб'яднанай нарадзе абгаварылі контрольныя лічбы, намецілі дыфэрэнцаваную сетку школ, выпрацавалі і абгаварылі рад конкрэтных мерапрыемстваў па разгортваньні работы і ўкомплектаваньні гэтай сеткі і ўнесьлі свае меркаваньні на бюро РК.

Прыехаўшы з Усебеларускай культпропнарады, склікалі сваю шырокую культпропнараду пры Культпропе РК, на якой удзельнічалі сакратары ячэек раёну і ўсе пропагандысты, вылучаныя ячэйкамі і зацьверджаныя РК.

Абгаварыўшы даклад аб выніках Усебеларускай культпропнарады, тут-жа абгаварылі і зацьвердзілі плян далейшых работ па ўкомплектаваньні сеткі і самую сетку.

3 кастрычніка ва ўсіх ячэйках быў праведзен політмасавы дзень, на якім абагаварвалася пытаньне аб марксысцка-ленінскім выхаваньні, а з 6 кастрычніка ўсе школы прыступілі організавана да работы па раней указаных Культпропам тэмах.

Наладжан з самага пачатку ўлік работы школ; для гэтай мэты надрукавалі і ў масавай колькасьці перадалі кожнай ячэйцы спэцыяльныя паштовыя адкрыткі ўстаноўленай формы, якія запаўняюцца і прысылаюцца Культпропу пасьля кожных заняткаў кожнай школай.

Вось узор гэтай адкрыткі:

Тэрмінова

*Г. КЛІМАВІЧЫ*

*РК КП(б)Б (Культпропу)*

ЗЬВЕСТКІ

........ школа ........,

ячэйкі КП(б)Б. Адбыліся заняткі на тэму........

........

........

дзе прысутнічала „........“ слухачоў.

„........“ ........ 193 г.

*Сакратар яч. КП(б)Б*

*Пропагандыст*

........

Зьвесткі пасылаюцца па пошце або пасланцом пасьля кожных заняткаў.

Чарговая задача, якая стаіць перад Культпропам РК і пропгрупай ЦК КП(б)Б заключаецца ў тым, каб ад росту ўшыр крута павярнуць да паляпшэньня якасьці работы школ усяе сыстэмы партасьветы. У галіне якасьці работы партыйных школ—мы маем па паасобных партячэйках прарывы: часта ад таго, што пропагандысты не ўладалі тэхнікай сваёй справы, а часта таму, што некаторыя пропагандысты нядбайна, не па-партыйнаму адносяцца да гэтага надзвычайна пачэснага і ў той-жа час адказнага абавязку.

У Мілаславіцкай 6-мес. партшколе пропагандыст, ён-жа і сакратар апорнай партячэйкі, т. Генэралаў па тэме «Савецкі гандаль», не паясьніўшы політычнага сэнсу гэтага пытаньня слухачам, не распрацаваўшы фактычнага матэрыялу па гэтай тэме,—адразу задае слухачам пытаньні.

Зразумела, што пры такой «мэтодыцы» пропагандыст ня можа чакаць ад слухачоў ні правільнага адказу, ні належнай актыўнасьці. Пасьля доўгай паўзы, т. Генэралаў пачаў тлумачыць пастаўленыя ім пытаньні, дапусьціўшы поўную блытаніну, дайшоўшую да проціпастаўленьня савецкага гандлю колгаснаму.

А нажаль, такія выпадкі зьяўляюцца не адзінкавымі. Што-ж прадпрынята і прадпрыймаецца цяпер для таго, каб забясьпечыць ідэолёгічную вытрыманасьць у выкладаньні марксыцка-ленінскай тэорыі партыйных школ раёну?

З самага пачатку зімовай работы школ організавана 6 куставых пропсэмінараў, да якіх прымацаваны ўсе пропагандысты раёну. Перш чым пропагандысты пачынаюць працу ў школе па тэй або іншай тэме, апошняя распрацоўваецца на куставым пропсэмінары ўсімі пропагандыстамі куста з удзелам яго кіраўніка, якім, як правіла, зьяўляюцца раённыя пропагандысты або члены пропгрупы.

У кіраўніцтве кустамі поўнасьцю ліквідавана абязьлічка. Прымацаваны да куста (мы яго называем загадчыкам куста) мае пад сваім ведамам ад 10 да 18 школ, за якія ён поўнасьцю адказвае. Кіраўнікі да работы ў куставым пропсэмінары атрымліваюць адпаведную консультацыю ў пропгабінэце «Дому комасьветы». Надзвычай добрае ўражаньне робіць работа пропсэмінараў на пропагандыста школы. У ім пропагандыст атрымлівае ня толькі веды па сутнасьці тэмы, але і ўсвойвае тэхніку і мэтодыку, шляхам якіх гэтыя веды перадаюцца слухачу. Шмат станоўчых вынікаў мае ўся гэтая сыстэма організацыі партасьветы. Вось прыклады росту слухачоў па школах. ВСПШ пры РК КП(б)Б—сярэдняе наведваньне з 27 у кастрычніку вырасла да 34-х у лістападзе. Трохмесячная кандыдацкая школа сілікатнага заводу—наведвала ў сярэднім у кастрычніку 18, у лістападзе—22 слухачы. Шасьцімесячная Дамамерыцкая—з 24 да 35-ці. Шасьцімесячная Гусарская—з 9 да 13-ці ў адпаведныя месяцы. Гразівецкая шасьцімесячная—з 11 да 20-ці.

Ёсьць выпадкі недаацэнкі работы куставых пропсэмінараў, спасыланьні на «об'ектыўныя» прычыны, немагчымасьць дабрацца да пропсэмінараў з прычыны гразі і т. д.

Так разважаюць, напрыклад, кіраўнікі школ: с.-г. «Прывольле», дзе кіравалі школамі, зусім не прытрымліваючыся праграм адпаведных школ, Склімін (Мілаславіцкі куст), Гразівец, Студзянец, Красавічы (куст Высокае); шасьцімесячная Гусарская (Дамамерыцкі куст) і інш.

На недаацэнку пропсэмінараў з боку некаторых пропагандыстаў і сакратароў ячэек, на адсутнасьць опэратыўнага кіраўніцтва справай партасьветы —РК рэагаваў тым, што заслухаў даклады 13-ці сакратароў партячэек, з якіх семярым пастаўлена на від, а астатніх папярэдзілі. І тым і другім далі тэрмін для палепшаньня работы з прапановай інформаваць потым Бюро РК.

Для зацікаўленьня пропагандыста работай яны аплачваюцца за фактычна прапрацаваны ў школе час. Абвешчан раённы конкурс на лепшую пастаноўку работы ў школе, на лепшую якасьць выкладаньня, на большы ахоп школамі беспартыйнага, рабочага і колгаснага актыву. На конкурс выдзелены спэцыяльныя сродкі ў суме 1 000 руб. і ўстаноўлены 3 прэміі ў 450 руб., 350 і 250 руб. кожная. Шмат ячэек уключылася ў конкурс, аб чым паведамляецца ў раённай газэце «Комуна». Шмат школ выдае свае насьценгазэты (Гусарская шасьці-і трохмесячныя, Макеевіцкая шасьцімесячная і кандыдацкая).

Першыя дасягнутыя Клімаўшчынай вынікі, паказваюць, што невыкананьне гаспадарча-політычных кампаній паасобнымі ячэйкамі заўсёды мела аднэй з сваіх прычын—недаацэнку марксысцка-ленінскага выхаваньня. У сучасны момант раённыя работнікі, будучы на раёне, заўсёды рэгулярна прыяжджаюць на заняткі ў свае школы.

Опортуністычныя тэорыі аб тым, што «займацца тэорыяй няма калі» абвяргаюцца фактамі жыцьця. Пляны загатовак, фінпляны, уборка ўраджаю, засыпка насенных фондаў, адгрузка бульбы і інш. выконваюцца найлепш там, дзе лепш пастаўлена справа партыйнай вучобы.

Культпроп РК, пропгрупа і газэта «Комуна» вядуць барацьбу за ўмацаваньне ўсёй гэтай сыстэмы партасьветы.

Замацоўваючы колькасныя дасягненьні, райпарторганізацыя ўступіла ў бой за цэнтральную задачу ў марксысцка-ленінскім выхаваньні—добрую якасьць вучобы.

---

## СОЦДАГАВОР КЛІМАВІЦКАЙ ПРОПГРУПЫ ЦК КП(б)Б З РЭЧЫЦКАЙ І БАРЫСАЎСКАЙ ПРОПГРУПАМІ

Дарагія таварышы! Пасьпяхова выканаўшы пяцігодку за чатыры гады, рабочая кляса, колгасьнікі і працоўныя аднаасобнікі СССР, пад выпрабаваным кіраўніцтвам компартыі і яе ленінскага ЦК на чале з т. Сталіным уступаюць у другую пяцігодку—пяцігодку пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

СССРператварыўся з краіны аграрнай у краіну індустрыяльную, з краіны адсталага раздробненага землеробства ў краіну самага буйнага і перадавога ў сьвеце соцыялістычнага землеробства. На аснове гіганцкага росту індустрыі партыя дабілася аб'яднаньня дробных аднаасобных гаспадарак у буйныя, колектыўныя, пасьпяхова праводзячы на гэтай аснове палітыку ліквідацыі кулацтва як клясы. Створана ўласная індустрыяльная база для рэконструкцыі прамысловасьці, транспорту, сельскай гаспадаркі. Замацавана незалежнасьць СССР ад капіталістычных краін і ў нячуванай ступені ўзмоцнена абароназдольнасьць краіны.

Усё гэта ня можа ня выклікаць шалёнага супраціўленьня клясавага ворага. «Гаспадарча разьбітыя, але яшчэ ня страціўшы канчаткова свайго ўплыву, кулак, былыя белыя афіцэры, былыя папы, іх сыны, былыя ўпраўляючыя памешчыкаў і цукразаводчыкаў, былыя ўраднікі і іншыя антысавецкія элемэнты з буржуазна-нацыяналістычнай і ў тым ліку эсэраўскай і пятлюраўскай інтэлігенцыі, асеўшыя на вёсцы, усяляк імкнуцца разлажыць колгасы, імкнуцца сарваць мерапрыемствы партыі і ўраду ў галіне сельскай гаспадаркі, выкарыстоўваюць у гэтых мэтах несьвядомасьць часткі колгасьнікаў супроць інтарэсаў грамадзкай—колгаснай гаспадаркі, супроць інтарэсаў колгаснага сялянства».

У такіх умовах абвастрэньня клясавай барацьбы ад партыйных і комсамольскіх організацый, асабліва на вёсцы, патрабуецца асаблівая пільнасьць, непрымірымасьць і рашучасьць у барацьбе з клясавым ворагам і яго агентурай: правым опортунізмам—галоўнай небясьпекай на даным этапе, «левым» опортунізмам, контррэволюцыйным трацкізмам, вялікадзяржаўным шовінізмам, як з галоўнай небясьпекай на даным этапе, беларускім нацыянал-дэмократызмам, які выступае пад фальшыва-нацыянальным сьцягам, нацыяналізмам іншых колераў, нацыянал-опортунізмам і гніла-лібэральнымі адносінамі да ўсіх відаў опортунізму і перараджэнцтва.

Між тым рад вясковых партыйных і комсамольскіх організацый ня толькі не процістаяць варожым і шкодніцкім элемэнтам бальшавіцкай пільнасьці і штодзённай барацьбы за ўзмацненьне савецкага ўплыву на шырокія беспартыйныя масы колгасьнікаў і работнікаў саўгасаў, але «часам і самі падпадаюць пад уплыў гэтых шкодніцкіх элемэнтаў, а некаторыя члены партыі, якія пра-



[library stamp]

лезьлі ў партыю з-за кар'ерысцкіх мэт—змыкаюцца з ворагамі колгасаў, саўгасаў і савецкай улады і організуюць сумесна з імі раскрадваньне насеньня пры сяўбе, раскрадваньне збожжа пры ўборцы і малацьбе, захаваньне збожжа ў патаемных сьвірнах, сабатаж хлебазагатовак і, значыць, уцягваюць паасобныя колгасы, групы колгасьнікаў і адсталых работнікаў саўгасаў ў барацьбу супроць савецкай улады» (рэзолюцыя студзеньскага пленума ЦК і ЦКК УсеКП(б).

Гэта неабходнасьць узмацненьня бальшавіцкай пільнасьці партыйцаў і комсамольцаў, усямернага ўзмацненьня барацьбы супроць клясавага ворага і опортунізму ўсіх відаў, ачысткі радоў партыі ад няўстойлівых элемэнтаў, элемэнтаў, якія перарадзіліся і прымазаліся, усямернага ўзмацненьня масавай палітычнай і організацыйна-гаспадарчай работы на вёсцы,—ставіць, як ніколі, адказныя задачы перад сеткай партыйнай асьветы.

Улічваючы гэтыя абставіны, Клімавіцкая пропгрупа ЦК КП(б)Б лічыць неабходным сумесную нашу работу паставіць на рэльсы социялістычнай організацыі працы, на рэльсы ўдарнай работы.

Выклікаем вас на социялістычнае спаборніцтва па марксысцка-ленінскім выхаваньні партыйных, профсаюзных, комсамольскіх, рабочых і колгасных мас і бярэм на сябе наступныя абавязкі.

## I. У галіне падрыхтоўкі кадраў

1. Падрыхтаваць праз сетку кароткатэрміновых курсаў (працягам ад 1 да 3 месяцаў) з вызваленьнем ад работы работнікаў партыйнай, комсамольскай, профсаюзнай, савецкай і колгаснай організацый—795 чал.

| | |
|---|---|
| а) сакратароў партыйных ячэек | 60 чал. |
| б) сакратароў комсамольскіх ячэек | 50 „ |
| в) пропагандыстаў партыйных школ | 50 „ |
| г) пропагандыстаў комсамольскіх школ | 60 „ |
| д) старшынь і сакратароў сельсаветаў | 55 „ |
| е) старшынь колгасаў, загадчыкаў фэрм і рахункаводаў | 90 „ |
| ж) культорганізатараў саўгасаў і колгасаў | 100 „ |
| з) рэдактароў насьценгазэт | 100 „ |
| і) кіраўнікоў дэлегацкіх сходаў | 60 „ |
| к) важатых піонэратрадаў | 70 „ |
| л) парторгаў і групарторгаў | 80 „ |
| м) брыгадзіраў па організацыі лесараспрацовак леспрамгасаў | 20 „ |

2. Падрыхтаваць і перападрыхтаваць на курсах працягам ад 1 да 2—3 дзён нізавых партыйных і комсамольскіх работнікаў (кі-

раўнікоў сэктароў, культпропаў, агітмасаў, кіраўнікоў агітколектываў ячэек і інш.)—300 чал.

3. Ахапіць тэорэтычнай вучобай праз куставыя пропсэмінары пропагандыстаў, якія працуюць ў сетцы партасьветы і аказваць ім сыстэматычную мэтодычную дапамогу.

4. Ахапіць тэорэтычнай вучобай колектыў грамадазнаўцаў усіх навучальных устаноў раёну праз грамадазнаўчы сэмінар, работу якога праводзіць 1 раз у месяц, распрацоўваючы ў ім найбольш актуальныя тэмы марксызму-ленінізму.

5. Праз кароткатэрміновыя курсы (ад 5 да 10 дзён) падрыхтаваць работнікаў колгаснага гандлю ня менш 90 чал.

6. Падрыхтаваць праз месячныя вячэрнія курсы (без адрыву ад вытворчасьці) нізавы профактыў, групрофупаўнаважаных, культорганізатараў—65 чал.

7. Па лініі РКК РСІ правесьці курсы тэрмінам 5—10 дзён для старшынь сельскіх сэкцый РСІ, ахапіўшы імі 30—40 чал.

8. Па лініі райкоопсаюзу праз кароткатэрміновыя курсы падрыхтаваць работнікаў розных катэгорый для сельскіх спажыўтаварыстваў (старшынь сельпо, крамнікаў, рахункаводаў)—70 чал.

Паказальнікам таго, як усе вышэйуказаныя курсы справяцца са сваёй задачай, павінна служыць ступень скарыстаньня скончыўшых курсы на практычнай рабоце.

## II. У галіне масавай сеткі партыйнай асьветы

1. 100-процантны ахоп сеткай партасьветы (3-месячныя кандыдацкія, 6-месячныя партшколы, гадавыя ВСПШ, ВКУ, завочны комвуз і саўпартшкола) усёй райпарторганізацыі і найлепшая пастаноўка ў ёй партыйна-выхаваўчай работы.

Крытэрыем якасьці работы павінна служыць для членаў і кандыдатаў партыі—ўдзел іх у партмасавай рабоце, выкананьне партнагрузак, авангардная роля комуністаў на прадпрыемстве;

разгортваньне партмасавай работы сярод колгасьнікаў і аднаасобнікаў, уцягненьне ў соцспаборніцтва рабочых і колгасьнікаў, выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, усіх відаў абавязацельстваў перад дзяржавай, плянаў с.-г. кампаній, барацьба за ахову грамадзкай маемасьці, палітычнае і организацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасу.

2. Уцягнуць у сетку партыйнай асьветы ўдарнікаў і ўвесь рабочы і колгасны актыў.

3. Організаваць масавую прапрацоўку ўсіх пастаноў партыі (конфэрэнцый, пленумаў ЦК УсеКП(б), ЦК КП(б)Б і РК КП(б)Б).

4. Выхаваць пастаянны кадр пропагандыстаў для партыйнай сеткі, вядучы сыстэматычную работу з імі праз скліканьне раённых нарад, куставых сэмінараў; асьвятляць іх работу ў друку.

## III. Іншыя віды работы

1. Аказваць дапамогу вячэрняму комвузу ў праграмна-мэтодычнай рабоце і арганізацыі партвыхаваўчай работы.

2. Наладзіць сыстэматычную работу пры габінэце па консультацыі кіраўнікоў куставых пропсэмінараў і пропагандыстаў, а таксама весьці далей сыстэматычную работу з завочнікамі комвузу і саўпартшкол, даючы ім консультацыі, прымаючы ад іх заданьні на месцы.

3. Аказваць мэтодычную дапамогу ў складаньні заданьняў для сеткі партыйнай асьветы па програмных і бягучых пытаньнях праз мэтодбюро пры партгабінэце.

4. Аказваць сыстэматычную дапамогу ў пастаноўцы выкладаньня грамадзкіх дысцыплін і арганізацыі выхаваўчай работы ў ФЗВ, колгасфаку, пчалярным тэхнікуме, колгаснай школе, ШСМ і на курсах, якія склікаюцца рознымі арганізацыямі.

5. Арганізаваць соцспаборніцтва паміж партшколамі і ўнутры школ.

6. Ня менш аднаго разу ў месяц пры партгабінэце склікаць сходы партактыву гораду, на якіх ставіць пытаньні на бягучыя палітычныя тэмы.

7. Разгарнуць работу па дапамозе партыйным ячэйкам у наладжваньні імі арганізацыйна-партыйнай і палітмасавай работы.

Усе віды работы падпарадкаваць задачам, пастаўленым перад партыяй яе ленінскім ЦК і яе правадыром т. Сталіным у яго гістарычных прамовах: «6 умоў», «Вынікі першай пяцігодкі», «Аб рабоце ў вёсцы».

Па даручэньню пропгрупы ЦК КП(б)Б,
кіраўнік пропгрупы **Цараў**.

---

*Бар. Пяркоўскі*

## „КОМУНА“ Ў БАРАЦЬБЕ ЗА ПАРТВУЧОБУ

Друкуючы пастанову бюро РК КП(б)Б аб пераводзе сеткі летняй партвучобы на асеньня-зімовы час, газ. «Комуна» дае адпаведнае падагульненьне вынікаў падрыхтоўкі да асеньня-зімовай партвучобы па партыйных ячэйках. Адзначаючы здавальняючую работу некаторых партячэек (Гусарка, Кіс.-Буда, комбінат будаўнічых матэрыялаў), газэта ўказвала прычыны адставаньня падрыхтоўчай работы да вучобы ў Дубравіцкай, Ціманаўскай, Красавіцкай, Горсавецкай і Пуцімельскай ячэйках КП(б)Б.

Зьмяшчаючы рэгулярна падагульненьні аб рабоце партячэек, «Комуна» належную ўвагу зьвяртала на комплектаваньне школ. Тыя недахопы, якія мелі месца ў комплектаваньні школ Міхалін-

скай партячэйкі і інш., былі зьнішчаны на хаду. Уся работа праводзілася пад знакам рэалізацыі пастановы ЦК КП(б)Б, пад знакам барацьбы за марксысцка-ленінскае выхаваньне. Шляхам сыстэматычнага паказу падрыхтоўчай работы да зімовай партвучобы «Комуна» дапамагла райпарторганізацыі дабіцца значных дасягненьняў ў барацьбе за ўзорную пастаноўку партвучобы.

6 кастрычніка праводзіўся першы дзень партыйнай вучобы ў раёне. На вопыце работы партыйнай ячэйкі саўгасу «Высокае», «Комуна» паказвала як трэба змагацца за выкананьне дырэктыў ЦК і РК КП(б)Б аб марксысцка-ленінскім выхаваньні. На занятках ячэйкі райпрамсаюзу паказвалася як ня трэба працаваць. Разгортваючы работу па колькасным ахопе партыйцаў, комсамольцаў і беспартыйных рабочых і колгасьнікаў, «Комуна» сваячасова (яшчэ ў верасьні месяцы), ставіла пытаньне аб якасьці партвучобы, аб увязцы партвучобы з практычным жыцьцём, з работай партыйнай ячэйкі на вёсцы. На працягу апошніх 3-х месяцаў было зроблена некалькі падагульненьняў пра завочную партыйную вучобу.

У выніку баявой работы парторганізацыі, друку, рабселькораў і ўсёй пролетарскай грамадзкасьці,—сетка партасьветы была ўкомплектавана поўнасьцю. Створана 48 кандыдацкіх школ, 36 шасьцімесячных, 4 вячэрніх саўпартшколы і адзін вячэрні комвуз. Вялікую работу правяла «Комуна» да адзінага партдню, які праводзіўся ва ўсіх ячэйках раёну 28 кастрычніка. К гэтаму дню быў выдан спэцыяльны бюлетэнь, у якім паказвалася, як трэба праводзіць партыйны дзень, розьніца паміж партднём і політднём і т. д. Цэлы рад партыйных ячэек—Кіс. Буда, торфзавод «Вялікі мох» і інш. правялі першы партдзень узорна. Вопыт гэтых ячэек пераносіўся ў астатнія,—у выніку другі адзіны партдзень, 23 лістапада, быў праведзен добра амаль што ва ўсіх ячэйках раёну.

Райгазэта «Комуна» пад кіраўніцтвам РК КП(б)Б правяла шырокую масавую работу па Ўсебеларускаму конкурсу на лепшага пропагандыста, абвешчанага журналам «За ленінскую вучобу». Кіраўнікі школ пры партячэйках—«Вялікі мох», Гусарскай, Галіцкай, субязі, Макеевіцкай, Аўтухоўскай і раду іншых, уключаўшыся ў конкурс, бралі на сябе конкрэтныя абавязкі, зьвязаныя з палепшаньнем якасьці партвучобы. У выніку гэтага мы дабіліся таго, што ў гэтых ячэйках партвучоба праводзіцца бяз усякіх перабоеў.

Рэалізуючы пастанову ЦК КП(б)Б аб палепшаньні работы з кандыдатамі і паказваючы недахопы ў гэтым напрамку (Лазовіцы, Забялышын), газэта гэтым не абмежавалася. Да дню кандыдата, які праводзіўся ў раёне 7 сьнежня, быў выдан спэцыяльны бюлетэнь. У гэтым бюлетэні быў зьмешчан матэрыял, які паказваў становішча работы з кандыдацкім складам райпарторганізацыі, як кандыдаты ахоплены партвучобай і чарговыя задачы, зьвязаныя з

рэалізацыяй пастановы ЦК аб разгортваньні работы з кандыдатамі. Вопыт «Комуны» пераносіўся ЦК КП(б)Б у другія раённыя газэты.

Нямалаважную ролю пропагандыста, агітатара і організатара мас адыграла газэта ў падрыхтоўчай рабоце да ядынага політдня, які быў праведзен у раёне 29 лістапада. У такіх ячэйках як Гусарская, Асмолавіцкая, комбінат будаўнічых матэрыялаў, сувязь, політдзень быў праведзен ня дрэнна. Аднак рад ячэек (коопэрацыйная, Міхалінская, Мілаславіцкая) ня здолелі адпаведным чынам падрыхтавацца і ўзорна правесьці політдзень. Гэты недахоп улічваецца пры правядзеньні падрыхтоўчай работы да чарговага політдню, які будзе праведзен у канцы сьнежня. Вопыт перадавых пераносіцца ў адстаючыя ячэйкі.

Пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, пры дапамозе друку, райпартарганізацыя Клімаўшчыны яшчэ вышэй узьнімае барацьбу за марксысцка-ленінскую тэорыю, за будаўніцтва соцыялізму.

15/XII-32 г.

---

*Захарэнка*

## ПРАЦА ГАЛІЦКАГА ПРОПСЭМІНАРУ

Галіцкі куставы пропсэмінар ахапляе 4 партячэйкі: Галіцкую, Пуцімельскую, с.-г. «XVI партзьезд» і Арлоўскую.

Партшкол дзесяць, у ліку якіх адна нацыянальная—латыская. Кустпропсэмінар пачаў працаваць з лістапада. Першае скліканьне кіраўнікоў (пропагандыстаў) гэтых партшкол было 28/XI-32 г., якія зьявіліся сваячасова і пачалі зараз-жа прапрацоўваць тэмы.

З кіраўнікамі 6-мес. партшкол была распрацавана 1-я тэма: «Першыя крокі соцыял-дэмократычнага руху да афармленьня бальшавізму» па кнізе Папова «Гісторыя ЎсеКП(б)».

З пропагандыстамі 3-мес. партшкол прапрацавана тэма «Два сьветы—дзьве сыстэмы».

Прапрацоўка тэм з пропагандыстамі партшкол як 6-мес., так і 3-мес., праходзіла наступным парадкам: рабілася ўступная прамова, у якой давалася шмат указаньняў пропагандыстам, як трэба распрацоўваць матэрыял і на што больш патрэбна зьвярнуць увагу перад слухачамі. Потым прыступалі да чыткі і на працягу 7 гадзін гэтыя тэмы распрацавалі. Было задана шмат запытаньняў; пасьля распрацоўкі іх пропагандысты асталіся задаволенымі і прасілі надалей наладжваць такія-ж заняткі; таксама ўхвалілі рашэньні Клімавіцкага РК КП(б)Б аб конкурсе на лепшае правядзеньне партвучобы.

Слухачы (пропагандысты) паставілі перад сабой задачу—лепшае правядзеньне партвучобы ў сваіх партшколах.

Наступны пропсэмінар пропагандыстаў Галіцкага куста склікаю 18/XII-32 г. Пастаўлена будзе пытаньне аб якасьці партвучобы.

Будуць прапрацаваны з кіраўнікамі 6-мес. партшколы: «Рэвалюцыя 1905 году» і з пропагандыстамі 3-мес. П. Ш. будзе распрацавана: «Партыя ў барацьбе на два фронты на сучасным этапе».

14/XII-32 г.

*Талалўеў*

## ЯК ТРЭБА ЗМАГАЦЦА ЗА ЯКАСЬЦЬ ПАРТВУЧОБЫ І ВЫХАВАНЬНЕ КАНДЫДАТАЎ

Куст «Высокае» аб'яднае 8 кандыдацкіх школ: «Высокае» (саўгас), Красавічы, Студзянец, Асмолавічы, Цімонава, Дубравіцы, Гразівец. Гэтыя школы распачалі сваю работу з кастрычніка і ахапілі ня толькі кандыдатаў і маладых членаў партыі, але і ўвесь актыў і ўдарнікаў.

Для падрыхтоўкі саміх кіраўнікоў кандыдацкіх школ рэгулярна склікаюцца пропсэмінары і прапрацоўваецца матэрыял да наступных заняткаў у кандыдацкіх школах.

Кіраўнікі кандыдацкіх школ заключылі соцумовы на лепшае выкладаньне, на ўцягненьне ўсіх слухачоў у актыўны разбор матэрыялу, на ўвязку тэорыі з практыкай, на актыўны ўдзел у выкананьні гаспадарча-палітычных кампаній.

Слухачы вядуць работу па ўцягненьні колгасьнікаў ў грамадзкую работу, самі прымаюць у ёй актыўны ўдзел. Калі да апошняга часу колгасьнікі слаба прымалі ўдзел ў палітднях, партднях, то цяпер, дзякуючы растлумачальнай рабоце слухачоў школ, колгасьнікі і працоўныя аднаасобнікі ўцягнуты ў гэтую работу. Гэты ўдзел школы ў грамадзкай рабоце дае магчымасьць пасьпяхова выконваць гаспадарча-палітычныя кампаніі.

16/XII-32 г.

*Гольдбэрг*

## АБ ХОДЗЕ ЗАВОЧНАГА НАВУЧАНЬНЯ Ў КЛІМАВІЦКІМ РАЁНЕ

Завочнае навучаньне падзяляецца на СПШ і КВ. У СПШ 28 чал. Завочнікі прымацаваны да консультанта. У Комвузе 18 чал., якія праводзяць рэгулярныя заняткі, згодна ўстаноўленых дзён для консультацыі, па панядзелках і чацьвяргох у «Доме комасьветы», ня лічачы самастойных заняткаў завочнікаў на даму. У вызначаныя вечары зьбіраюцца ў «Дом комасьветы» і прапрацоўваюць заданьні самастойна (групамі або індывідуальна, у залежнасьці ад таго, наколькі хапае падручнікаў). У гэты час дзяжурыць выкладчык-консультант, які растлумачвае незразумелае пытаньне.

Пасьля прапрацоўкі матэрыялу заданьні здаюцца консультанту-выкладчыку вусна. Вядзецца запіс у сшытку па галоўных момантах заданьня, якія паказваюцца выкладчыку пры здачы заданьня. Такім чынам, дзякуючы тэтым мэтодам вучобы, завочнікамі Комвузу выкананы заданьні на 10/XII-32 г.: 2-ма завочнікамі здана па політэкономіі па 4-ы заданьні, па рэволюцыйным руху 5 заданьняў; 12 асоб выканала па політэкономіі 3 заданьні, з іх 8 асоб здала па рэўруху—па 2-х заданьнях, 4 асобы па 1-му заданьню; 3 асобы здалі па політэкономіі па 2-м заданьням, а па рэўруху адзін здаў 2 заданьні, адзін—адно заданьне. Апошні таксама прыступіў да выкананьня заданьняў.

Усяго выканана па політэкономіі 50 заданьняў і рэволюцыйным руху—33 заданьні.

Апошні час надаслан з Комвузу сьпіс завочнікаў б. комсамольскага ўнівэрсытэту, якія пераведзены ў завочны комвуз у колькасьці 3 асоб. Яны таксама прыступілі да выкананьня сваіх заданьняў.

---

*Шнэйдэр*

## ПАРТВУЧОБА Ў МАКЕЕВІЦКАЙ ЯЧЭЙЦЫ КП(б)Б

*(Клімавіцкі раён)*

Макеевіцкая партячэйка організавала адну шасьцімесячную партшколу і дзьве трохмесячных. Школы пачалі сваю працу з кастрычніка месяцу. Наведваньне ў школах рэгулярнае, зрыву заняткаў ня было. Сыстэмай масавай партасьветы ахоплены ўсе члены, кандыдаты партыі і беспартыйны актыў, усяго 60 чал. Мэтод заняткаў наступны: адзін чытае, астатнія слухаюць. Незразумелае паясьняецца пропагандыстам. Калі матэрыял тэмы прачытан, тады падагульваецца прачытанае, шляхам разгорнутай ґутаркі ўсяе групы з папярэдняй пастаноўкай контрольных пытаньняў пропагандыстам.

Усіх пропагандыстаў акуратна падрыхтоўвае для працы ў школах куставы пропсэмінар.

---

*Іванекін*

## ПАРТВУЧОБА Ў ГУСАРСКАЙ АПОРНАЙ ЯЧЭЙЦЫ КП(б)Б

Заняткі распачаліся з 6/XI-32 г. Організавана 2 партшколы—6-месячнай ахоплена членаў КП(б)Б—7 і беспартыйных—7 чал.; 3-месячнай ахоплена членаў КП(б)Б—3, кандыдатаў—15, беспартыйных колгасьнікаў—12; разам па 2-х школах ахоплена 45 чал. Школы працуюць 2 разы ў тыдзень—панядзелак і чацьвер бесьперабойна. Ня было ніводнага зрыву заняткаў, усе комуністы ахоплены сеткай партасьветы і наведваньне на 100 проц. комуністамі і на 98 проц. беспартыйнымі. Выпускаюцца пры кожнай

школе насьценгазэты, якія адлюстроўваюць ход вучобы і бяруць на буксір адстаючых. Заключана соцспаборніцтва на лепшыя паказчыкі ў школе з Кіс.-Будзянскаю школай. За час заняткаў уступіла ў партыю 6 колгасьнікаў-ударнікаў. Пропагандыстаў ёсьць 2, якія да заняткаў рыхтуюцца добра і правяраюцца сакратаром партячэйкі.

З боку Культпропу РК добрае кіраўніцтва. Школы разьбіты на кусты і пры кожным кусьце праводзяцца інструкцыйныя нарады пропагандыстаў, якія даюць вялікую карысьць, орыентоўку ў практычнай рабоце.

15/XII-32 г.

*Шмідаў*

## ЯК ЯЧЭЙКА КІРУЕ ПАРТШКОЛАЙ

*(Асмолавіцкая ячэйка КП(б)Б Клімавіцкага раёну)*

Дзякуючы добра праведзенай падрыхтоўчай рабоце, 6-месячная школа своечасова прыступіла да заняткаў, г. зн. 6/X-32 г. У школе 19 чал., з іх: членаў КП(б)Б—3, кандыдатаў—2, комсамольцаў—2 і беспартыйнага колгаснага актыву—12 чал.

Да 16/XII-32 г. праведзена 19 заняткаў. Прапрацован ліпеньскі аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б, арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і колгасны гандаль, пастанова ЦК і СНК аб павышэньні ўраджайнасьці, верасьнёўскі пленум ЦК УсеКП(б) і па гісторыі партыі—20 гадз. У школе таксама праходзяць заняткі па белмове, матэматыцы і зоотэхгадзіна. Наведваньне і адносіны слухачоў да заняткаў добрыя. Удзел у гаспадарча-палітычных кампаніях, асабліва ў загатоўцы мяса, ільну, збожжа, бульбы—вельмі акуратны.

У выніку, пры актыўным удзеле школы колгас «III Інтэрнацыянал» плян мобілізацыі сродкаў выканаў на 103 проц., збожжа—на 100 проц., мяса—на 150 проц. IV кварталу 32 г.

Гэта сьведчыць аб правільнай увязцы марксысцка-ленінскай тэорыі з бальшавіцкай практычнай работай і дае моцны ўдар па ўсякіх разважаньнях аб тым, што нельга вучыцца ў партшколах і выконваць дырэктывы партыі і ўраду на гаспадарчым фронце.

*Асмалоўскі*

## ЯК ЯЧЭЙКА КП(б)Б КОМБІНАТУ БУДАЎНІЧЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ КІРУЕ ПАРТАСЬВЕТАЙ

Партасьвета на б. сілікатным заводзе, цяпер комбінаце будматэрыялаў, увесь час з пачатку існаваньня заводу зрывалася.

Па прычынах неорганізаванасьці і адсутнасьці сур'ёзнага надыходу да партасьветы, навучальны год абмяжоўваўся 4—5 парт-

заняткамі. Таксама ўвесь час правальвалася і летняя партасьвета, дзякуючы поўнай опортуністычнай недаацэнцы партасьветы з боку самой ячэйкі, якая не надавала належнага значэньня аўладаньню марксысцка-ленінскай тэорыяй.

З 1932 г. завод рэорганізуецца ў комбінат будматэрыялаў (фібраліт, сілікат), які павінен зьявіцца гігантам другой пяцігодкі БССР.

Улічваючы гэта, РК КП(б)Б у ліпені месяцы ўзмацніў парткіраўніцтва яч. КП(б)Б комбінату. Зараз становішча ўсёй партработы як організацыйнай, так партвыхаваўчай і партмасавай палепшылася. Асноўны ўпор цяпер ўзят на падвышэньне палітычнага ўзроўню ячэйкі КП(б)Б, бо ён у комуністаў быў зусім нізкім.

Летняя вучоба была наладжана па пытаньнях бягучай палітыкі. У летнюю вучобу былі ўцягнуты ўсе комуністы, комсамольцы і беспартыйны актыў, разам з гэтым па цэхах комбінату наладжана была масавая палітвучоба. Прапрацованы ўсе пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б. Прапрацоўка завершана распрацоўкай пастаноў XVII партконфэрэнцыі. Падрыхтоўчая работа да зімовай партвучобы па комбінату была распачата з жніўня месяца і поўнасьцю рэалізаваны пастановы РК КП(б)Б аб партвучобе.

Зімовая партвучоба распачалася з 6 кастрычніка. Сетка партвучобы наступная: 3-мес. кандыдацкая школа з ахопам 24 слухачоў, 6-месячная—з ахопам 10 слухачоў і аднагадовая ВСПШ з ахопам 11 чал. Праведзена на 15 сьнежня 20 заняткаў, школы працуюць без перабою. Агульным недахопам зьяўляецца тое, што ў нас яшчэ і да гэтага часу малы ахоп беспартыйных рабочых сеткай партвучобы. Гэтым пытаньнем ячэйка займаецца штодзенна. У выніку папярэдняй вучобы маем прыём у партыю—7 чал. з ліку слухачоў. Склад кіраўнікоў наступны: усе члены КП(б)Б: з 1919 г.—1, 1925 г.—1, з 1928 г.—1. Агульны палітузровень кіраўнікоў партшкол—сярэдні. Кіраўнікі школ рэгулярна наведваюць пропсэмінар пры «Доме комасьветы». Агульны недахоп—ня поўная забясьпечанасьць падручнікамі і адсутнасьць рэгулярнага выкладаньня агульнаадукацыйных прадметаў. Ячэйка КП(б)Б уключылася ў конкурс, абвешчаны Культпропам РК на лепшую пастаноўку партвучобы.

---


Рэдколегія:
- Егораў (Адказны рэдактар)
- Клімаў
- Орліс
- Гурвіч
- Курцік
- Вільчык
- Грыцкевіч



60167

~~206103~~

